# СВАБОДА

18 студзеня 1995 г. №3 (102) Кошт 150 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец **«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

**Наклад 60 000**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**

**Тэл./факс 36-24-41**


## Ці абароніць суд Канстытуцыю?

**На мінулым тыдні ў Вярхоўным Савеце была сабраная неабходная колькасьць подпісаў дэпутатаў (усяго 77) пад зваротам у Канстытуцыйны суд адносна парушэньняў свабоды друку ў нашай краіне.**

Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ дэпутат С.Навумчык, на гэтым тыдні зварот будзе перададзены ў Канстытуцыйны суд.

**І.С.**

## Ганчар знайшоў пасаду

**Адстаўны віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар будзе працаваць Генэральным сакратаром Эканамічнага суда СНД.**

Пра гэта паведаміў старшыня Эканамічнага суда СНД Леанід Дашук.

***СІМ***

## Мясьніковіча адправяць у МЭК?

**Віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясьніковіч у бліжэйшы час магчыма будзе вызвалены ад пасады і пераведзены на працу ў Міждзяржаўны эканамічны камітэт (МЭК) СНД.**

На пытаньне журналістаў пра ягоную дзейнасьць у МЭК сп.Мясьніковіч адказаў, што ён пры цяперашняй пасадзе ўваходзіць у прэзыдыюм МЭК. Наконт сталай працы ў гэтай арганізацыі віцэ-прэм'ер заўважыў: «Штатны расклад яшчэ не зацьверджаны, і да таго ж ад мяне гэта не залежыць»

***СІМ***

## Бязь лекаў і скальпэль не ўратуе

**Як паведаміў галоўны урач Магілёўскай гарадзкой бальніцы П.Ратуш, амаль тыдзень тут ня робяцца плянавыя апэрацыі.**

Прычына — адсутнасьць неабходных лекаў і сродкаў на іх закуп.

**Зінаіда ЛАРЫНА**

# Маршрут Антончыка: Віцебск — Гомель — Менск — Маладэчна — Горадня...

**Дэпутат Сяргей Антончык, атрымаўшы шматлікія запрашэньні з розных гарадоў, распачаў паездкі па Беларусі.**

14—15 студзеня ён сустракаўся з выбаршчыкамі ў Віцебскай вобласьці. У Воршы С.Антончык выступіў у самай вялікай залі горада — у Палацы ільнокамбінату. У Віцебску сустрэча адбылася ў канцэртнай залі філярмоніі. У Полацку меркавалася сустрэча ў Доме афіцэраў, аднак у апошні момант адміністрацыя ад яе правядзеньня адмовілася, давялося тэрмінова шукаць іншае месца. Адбылася сустрэча таксама ў Наваполацку.

Нягледзячы на тое, што аб прыезьдзе дэпутата Антончыка мясцовы люд ня быў загадзя апавешчаны, вестка разыходзілася імгненна і залі былі поўныя. Кожная сустрэча доўжылася прыкладна тры гадзіны. Гаворка ішла ў асноўным пра карупцыю і канкрэтных карупцыянэраў у камандзе Лукашэнкі. Дэпутат Антончык прыводзіў ня толькі факты са свайго вядомага дакладу, але і новыя зьвесткі, якія ён атрымаў апошнім часам.

Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ С.Антончык, 17 студзеня ён зьбіраецца наведаць Гомель. 19 студзеня адбудзецца сустрэча дэпутата Антончыка з выбаршчыкамі ў Менску (мікрараён Паўднёвы Захад, школа №208, 19.00), а 20 студзеня а 19-й гадзіне — у менскім кінатэатры «Кіеў». 21 студзеня С.Антончык будзе сустракацца з жыхарамі Маладэчна. З 24 студзеня ён плянуе пабываць у Горадні і гарадох Магілёўскай вобласьці, у тым ліку ў Шклове.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Мясцовыя газэты — пад кантроль „вэртыкалі“

**Кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта Леанід Сініцын накіраваў ва ўсе мясцовыя выканкамы загад №07—53 ад 15 сьнежня 1994 г.**

У гэтым загадзе ён «рэкамэндуе» «зьмяніць склад заснавальнікаў мясцовых дзяржаўных газэтаў». У прыватнасьці, адзначаецца, што ў склад заснавальнікаў неабходна ўвесьці адпаведныя саветы дэпутатаў і выканаўчыя камітэты. Пры гэтым шэф прэзыдэнцкай адміністрацыі папярэджвае, што «недапушчальна закрываць мясцовыя пэрыядычныя выданьні, заснавальнікамі якіх зьяўляюцца органы дзяржаўнага кіраваньня». Сп.Сініцын паведамляе, што зьмест гэтага распараджэньня ўзгоднены з прэзыдэнтам Лукашэнкам. Такім чынам, прэзыдэнт бярэ пад жорсткі кантроль сваёй «вэртыкалі» усе раённыя і абласныя газэты. Тэлевізіі, радыё і сталічных газэтаў Лукашэнку, як бачым, замала.

**Анатоль МІРСКІ**



# Лукашэнка стварае свой „баявы атрад“

**Лукашэнка падпісаў сакрэтны ўказ аб стварэньні Ўправы аховы прэзыдэнта.**

Паводле нашых зьвестак, гэтая структура будзе налічваць каля 300 чалавек. Шэфам новай службы прызначаны нейкі Каралёў, які дагэтуль быў начальнікам Барысаўскага раённага аддзяленьня КДБ. Прэзыдэнту яго рэкамэндаваў дзяржсакратар В.Шэйман, які некалі служыў разам з Каралёвым у Сярэдняй Азіі. Цяпер яны падбіраюць людзей у службу аховы. Перавага аддаецца тым, з кім асабіста знаёмыя. Ахвотнікаў патрапіць больш чым дастаткова, бо пайшла пагалоска, што «усім дадуць кватэры».

Пад Управу аховы мяркуюць забраць будынак штаба Грамадзянскай абароны, што на вул. Бабруйскай паблізу Дома ўраду, альбо будынак штаба Ваенна-паветраных сілаў на праспэкце Скарыны (каля Палацу прафсаюзаў).

Можна чакаць, што стварэньне самастойнай Управы аховы прэзыдэнта выкліча рэзка негатыўную рэакцыю сярод розных палітычных сілаў. Рэч у тым, што раней ахову кіраўніка дзяржавы забясьпечвала 9-я Ўправа КДБ. Той факт, што шэф КДБ прызначаецца са згоды парляманту, даваў хоць нейкую магчымасьць кантролю. Новая ж служба будзе падкантрольная толькі Лукашэнку і Шэйману.

Як лічаць нашыя экспэрты, небясьпека заключаецца ў тым, што служба аховы ажыцьцяўляе ня толькі так званую фізычную ахову, але займаецца і апэратыўнай дзейнасьцю (вярбоўка агентуры, праслухоўваньне, падгляд і інш). Аднак на такую дзейнасьць гэтая новастворaная структура ня мае юрыдычных падставаў, бо, паводле закону, апэратыўна-вышуковыя мерапрыемствы дазваляецца праводзіць толькі КДБ, МУС, памежным войскам і падаткавай паліцыі.

Экспэрты мяркуюць, што прэзыдэнт стварыў гэтую службу ня столькі з мэтаю аховы сваёй пэрсоны, колькі дзеля палітычнага вышуку і на выпадак «гарачай» сытуацыі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**



# Ганеньні на свабоду друку ў Беларусі

### Афіцыйная пазыцыя ўраду ЗША

**10 студзеня «Голас Амэрыкі» перадаў рэдакцыйны матар'ял, які адлюстроўвае пазыцыю ўраду ЗША.**

У ім гаворыцца: «Свабода друку ў Беларусі знаходзіцца пад сур'ёзнай пагрозай. Некалькі беларускіх газэтаў нядаўна спрабавалі надрукаваць тэкст дакладу аднаго з членаў беларускага парляманту аб карупцыі сярод высокапастаўленых урадавых чыноўнікаў. Аднак замест тэксту ў нумарах газэтаў былі толькі пустыя калёнкі. Рэдактар газэты, якая зьбіралася апублікаваць даклад, быў зьняты з пасады ўказам прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі нібыта за фінансавыя парушэньні. Пасьля гэтага дзяржаўная друкарня скасавала дамовы на друк незалежных газэтаў.

Урад Беларусі абмяжоўвае свабоднае распаўсюджваньне інфармацыі, маючы практычна поўную манаполію на ўсе віды сродкаў масавай інфармацыі, і імкнецца абмежаваць крытыку на свой адрас зь іхнага боку. Урад ажыцьцяўляе татальны кантроль над зьместам матар'ялаў буйнейшых штодзённых газэт, а таксама радыё- і тэлевізійных перадач.

Злучаныя Штаты выступаюць супраць цэнзуры прэсы. Свабодныя сродкі масавай інфармацыі зьяўляюцца асноваю дэмакратыі і служаць інструмантам мірнага сацыяльнага разьвіцьця. Яны таксама зьяўляюцца сродкам асьветы выбаршчыкаў і рупарам для выказваньня іхных думак па актуальных пытаньнях.

Злучаныя Штаты заклікаюць урад Беларусі да павагі свабоды выказваньня думак, што зьяўляецца адным з асноўных правоў, устаноўленых Усеагульнай дэклярацыяй правоў чалавека, Гельсінскімі пагадненьнямі і Канстытуцыяй самой Беларусі. Свабодная прэса ўяўляе сабой найважнейшы элемэнт падмурку палітычных рэформаў. Злучаныя Штаты заклікаюць Беларусь да ўзмацненьня мераў па дэмакратызацыі і разьвіцьці эканамічных рэформаў».

***USIA***

# Фронт някепска гуляе ў юрыдычныя шахматы

Першае сёлета паседжаньне Сойму БНФ «Адраджэньне» прысьвячалася, як і папярэднія, веснавым выбарам. Уладзімер Анцулевіч, які выступіў з асноўным спавешчаньнем, пад воплескі паведаміў, што ў міністэрстве юстыцыі прайшлі перарэгістрацыю і Беларускі Народны Фронт, і Партыя БНФ. Такім чынам, Фронт падыходзіць да выбарчай кампаніі з пэўнымі перавагамі — апярэдзіўшы супернікаў.

У.Анцулевіч зьвярнуў увагу на тое, што пры перарэгістрацыі са Статуту Фронту было выключанае вызначэньне БНФ як грамадзка-палітычнага руху і ён стаў грамадзкім аб'яднаньнем. Гэтага жорстка патрабавала міністэрства юстыцыі, зыходзячы зь нядаўна прынятых законаў «Аб палітычных партыях» і «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях»: арганізацыя павінна быць або грамадзкаю, або палітычнаю.

Два розныя законы рыхтаваліся гэтым Вярхоўным Саветам з мэтаю адхіліць Фронт ад удзелу ў выбарах ці хаця б абмежаваць яго́ныя магчымасьці. Прадбачачы такое, Фронт яшчэ на мінулым зьезьдзе ўтварыў Партыю БНФ, і цяпер яна бярэ на сябе палітычныя функцыі Фронту. Але ў той жа час, намінальна ператварыўшыся ў грамадзкае аб'яднаньне, уласна БНФ «Адраджэньне» выйшаў з-пад дзеяньня Пастановы ВС 1991 г. «Аб дэпартызацыі...» — і набыў права ствараць арганізацыйныя структуры на прадпрыемствах і ва ўстановах, у вучэльнях, у войску, міліцыі, КДБ і г.д. Такім чынам, двухгадовыя намаганьні Вярхоўнага Савету заканадаўча нэўтралізаваць Фронт не прапалі дарэмна: БНФ ня толькі нічога ня страціў, але дзякуючы намэнклятурнай заканатворчасьці значна пашырыў свае магчымасьці.

Сп. Анцулевіч паведаміў аб перамовах кіраўніцтва і Выбарчага Камітэту БНФ з дэмакратычнымі партыямі, у выніку якіх дамоўлена аб стварэньні палітычнага блёку. Прынцыповая пазыцыя Фронту ў тым, што блёк стварaецца ня толькі на пэрыяд выбарчай кампаніі, а на ўсе пяць гадоў дзейнасьці будучага Вярхоўнага Савету. Дэклярацыя прынцыпаў блёку адкрытая для падпісаньня да 5 лютага. Вырашана ўтварыць каардынацыйны орган блёку на базе Выбарчага Камітэту БНФ.

Зянон Пазьняк падкрэсьліў, што перадвыбарчая сытуацыя цяпер больш складаная, чым у 1990 г. Фронт, усьведамляючы адказнасьць за будучыню краіны, мусіць цалкам скарыстаць свае перавагі і, не марнуючы часу, брацца за руціннную працу.

Сойм зацьвердзіў Ул.Анцулевіча на старшыню Выбарчага Камітэту БНФ і прызначыў чарговы зьезд БНФ на селетні красавік.

Сойм Партыі БНФ, які сабраўся ў гэты ж дзень, ратыфікаваў Дэклярацыю прынцыпаў дэмакратычнага блёку і таксама пастанавіў склікаць зьезд.

Пасьля паседжаньня адбылася Соймавая канфэрэнцыя «Імпэрская сутнасьць палітыкі Расеі», дзе з грунтоўнымі тэарэтычнымі спавешчаньнямі выступілі Павал Лоика, Юры Хадыка і Зянон Пазьняк. Прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчаньня памяць палеглых за незалежнасьць сваёй бацькаўшчыны чачэнскіх ваяроў. Слушнасьць і ранейшых пагляду Фронту на расейскую палітыку, і леташняга Пазьняковага артыкула «О русском империализме» пацьвердзілася нават больш хутка і трагічна, чым чакалася. Нашая задача — выйсьці з СНД і з усіх падкантрольных Расеі структураў, інакш нас ня будзе як народу; а будучыня Расеі — толькі ў распадзе імпэрыі, зрабілі высьнову выступоўцы.

**Вера ЧУЙКО**

# Дэкларацыя прынцыпаў стварэньня передвыбарчага блёку дэмакратычных сілаў

Мы, паўнамоцныя прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускай сялянскай партыі, Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай партыі, Партыі Беларускага Народнага Фронту, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, праанализаваўшы палітычную сытуацыю, якая склалася ў Беларусі напярэдадні выбараў новага вышэйшага органу заканадаўчай улады Рэспублікі Беларусь, заяўляем аб стварэньні перадвыбарчага блёку дэмакратычных сілаў, паклаўшы ў аснову наступныя прынцыпы:

*— забесьпячэньне правоў асобы, абвешчаных Усеагульнай Дэклярацыяй правоў чалавека, і стварэньне прававой дзяржавы;*

*— умацаваньне дзяржаўнага сувэрэнітэту; агульнадзяржаўныя інтарэсы маюць бясспрэчны прыярытэт над інтарэсамі клясавымі, партыйнымі, групавымі;*

*— правядзеньне рашучых рынкавых рэформаў, якія прадугледжваюць:*

*а) увядзеньне нацыянальнай валюты;*

*б) зьніжэньне ўзроўню інфляцыі;*

*в) прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці;*

*г) рэфармаваньне калгасаў і саўгасаў, стварэньне спрыяльных умоваў для разьвіцьця фэрмэрскіх гаспадарак;*

*— абвяшчэньне ўласнасьці грамадзянаў і юрыдычных асобаў сьвяшчэннай і недатыкальнай, абарона яе ўсёй сілаю дзяржаўнай улады;*

*— стварэньне цывілізаванай сыстэмы сацыяльнай абароненасьці;*

*— адраджэньне духоўнага жыцьця і нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу, умацаваньне дзяржаўнасьці беларускай мовы;*

*— стварэньне грамадзянскай супольнасьці і забесьпячэньне нацыянальна-культурнай аўтаноміі нацыянальных меншасьцяў Беларусі;*

*— умацаваньне барацьбы са злачыннасьцю.*

Гэты блёк утвараецца тэрмінам на 5 год і захоўвае асноўныя прынцыпы сваёй дзейнасьці на ўвесь час чыннасьці новавыбранага Вярхоўнага Савету.

Мы пагаджаемся ў тым, што:

— на час выбарчай кампаніі ствараецца адзіны кааардынацыйны орган на базе перадвыбарчага камітэту БНФ для таго, каб забясьпечыць вылучэньне на кожнай акрузе аднаго лепшага кандыдата ў дэпутаты зь ліку сябroў нашых партый і аб'яднаць інтэлектуальныя, тэхнічныя і арганізацыйныя магчымасьці нашых арганізацый;

— кожная партыя, якая праўядзе ў склад новага Вярхоўнага Савету неабходную для стварэньня фракцыі колькасьць дэпутатаў, будзе мець права ўтвараць сваю фракцыю для абароны і рэалізацыі праграмных мэтаў гэтай партыі.

Да 5 лютага 1995 года Дэкларацыя адкрытая для падпісаньня тымі партыямі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь, якія падзяляюць пададзеныя вышэй прынцыпы дзейнасьці блёку.

| | |
|---|---|
| **Ад БСДГ** | **А.Трусаў** |
| **Ад БХДП** | **М.Крукоўскі** |
| **Ад БСП** | **Я.Лугін** |
| **Ад БНФ** | **З.Пазьняк** |
| **Ад НДПБ** | **А.Апрышка** |

# Страйк на БелАЗе

**На мінулым тыдні два дні не працаваў БелАЗ.**

Страйк распачаўся стыхійна. Галоўная прычына незадаволенасьці — нізкія заробкі (у сярэднім 200 тыс. рублёў у месяц). Рабочыя запатрабавалі плаціць больш. Пасьля перамоваў адміністрацыя згадзілася падвысіць зарплату прыблізна да 300 тыс. рублёў.

**Яўген АЛАДКА**

# Прафсаюзы зьбіраюцца страйкаваць

**17 студзеня пад эгідай Асамблеі Незалежных прафсаюзаў прамысловасьці (АНПП) адбудзецца пашыранае паседжаньне з удзелам прадстаўнікоў рэгіянальных прафсаюзных арганізацыяў.**

На сустрэчы будуць абмеркаваныя пытаньні тактыкі прафсаюзных дзеяньняў, накіраваных супраць падзеньня ўзроўню жыцьця і ў падтрымку павелічэньня заработнай платы. Старшыня АНПП сп.Герасіменка ў сувязі з гэтым заявіў: «Сёньняшні закон «Аб прафсаюзах» значна ўскладняе падрыхтоўку і правядзеньне страйкаў. Аднак мы спадзяемся на пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтай акцыі пратэсту, бо цярпеньне народу не бязьмежнае». Камэнтуючы палітыку ўраду ў сфэры аплаты працы, сп.Герасіменка зьвярнуў увагу на той факт, што, нягледзячы на скрайнюю дэфіцытнасьць бюджэту, урад палічыў магчымым павысіць заработную плату работнікам сілавых структураў. «Прычына ляжыць на паверхні. Урад баіцца вока якіх праяваў апазіцыйнасьці з боку МУС, КДБ і войска», — адзначыў сп.Герасіменка.

**СІМ**

# Баранавіцкім камбінатам кіруе былы міністар

**На Баранавіцкі бавоўнавы камбінат днямі прызначаны новы дырэктар Сяргей Руцкі, які ў часы СССР быў міністрам лёгкай прамысловасьці Кіргізіі.**

Былому міністру ў спадчыну перайшло прадпрыемства зь велізарнымі даўгамі і стабільнымі прастоямі. Толькі за электрычнасьць камбінат завінаваціўся 8 млрд. рублёў. А тых 70 млрд. рублёў крэдыту, якія паабяцаў Лукашэнка, хопіць, як падлічылі на камбінаце, толькі на 3 месяцы працы. Зрэшты, пакуль няма ні крэдыту, ні абяцанай прэзыдэнтам узбэкскай бавоўны. Камбінат, на якім каля 10 тысяч чалавек работнікаў, працуе цяпер усяго 2—3 дні ў тыдзень.

**Зьміцер ЗАРЭЦКІ**

# У партыю — усім калгасам

**Татальны запіс у Аграрную партыю прайшоў у калгасе «Сьветлы шлях» Смаргонскага раёну.**

На агульным калгасным сходзе ў партыю вымушаныя былі запісацца 346 чалавек. Тым, хто ня вельмі ахвотна браўся пісаць заяву, празрыста намякалі, што яны рызыкуюць трапіць у няміласьць да калгаснага начальства. Сяляне цішком абураліся: «раней у калгас сілком зацягнулі, а цяпер — у партыю»...

**Віктар ШОЦЬ**

# Катэдру беларускай гісторыі апанавалі марксісты

**У Гомельскім унівэрсытэце пад прыкрыцьцём курсу гісторыі Беларусі чытаюцца лекцыі па гісторыі камуністычнай партыі.**

Рэч у тым, што новастворaная катэдра гісторыі Беларусі амаль цалкам укамплектаваная выкладчыкамі былой катэдры гісторыі КПСС.

На лекцыях гэтыя самавітыя вучоныя дзядзькі дэталёва распавядаюць біяграфіі Маркса, Энгельса ды імкнуцца пераканаць студэнтаў у пэрспэктыўнасьці для грамадзтва вучэньня марксізму, якое «сказілі». Калі студэнты спрабуюць высьветліць у лектараў, якое гэта мае дачыненьне да Беларусі, то чуюць у адказ: «Марксізм — гэта частка сусьветнай гісторыі, а значыць і частка гісторыі Беларусі». Карацей кажучы, забіваюць галовы рознаю лухтой.

Тымчасам маладых, адукаваных гісторыкаў да выкладчыцкай працы не дапускаюць. Усе месцы «забілі» марксісты-ленінцы.

**Зьміцер САСНОЎСКІ,**
**студэнт гістарычнага факультэту**
**Гомельскага ўнівэрсытэту**

# Просіна выкрыла «падрыўную арганізацыю»

**У нашай краіне дзейнічае «падрыўная арганізацыя» — Беларускі свабодны прафсаюз пэдагогаў (БСПП).**

Да такой высновы прыйшла Аляксандра Просіна — старшыня Сьветлагорскага райвыканкаму (адначасова яна зьяўляецца сакратаркай тамтэйшай арганізацыі Партыі камуністаў).

На паседжаньні раивыканкаму, дзе разглядалася пытаньне аб пастаноўцы на ўлік раённа-гарадзкой арганізацыі БСПП, Просіна (якая нядаўна стала «вэртыкальлю») заявіла: «Мое личное мнение — Белорусский свободный профсоюз педагогов подрывает государство». (Нагадем, што БСПП зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі). Астанія члены выканкаму ня сталі пярэчыць «личному мнению» таварыша Просінай, таму арганізацыю БСПП у раёне на ўлік не паставілі.

Тымчасам у гарадзкім выканкаме ня ўбачылі ў БСПП «падрыўной сутнасьці» і ўсё аформілі безь перашкодаў. Такім чынам, прафсаюз, які ў горадзе дзейнічае на афіцыйных падставах, за гарадзкой ускраінай — на тэрыторыі раёну — адразу трапляе ў нелегальнае становішча.

Дарэчы, Аляксандра Просіна ня першы раз праяўляе такую «партыйную пільнасьць». Напрыклад, летась, калі ў Сьветлагорск прыяжджаў прадстаўнік ААН, гав.Просіна ў мясцовай прэсе біла трывогу, што дзяржава нібыта трапляе «пад каўпак замежных арганізацый».

**Б.М.**

# Свабодны прафсаюз прыйшоў і ў Шклоў

**На Шклоўскай папяровай фабрыцы «Спартак» утвораная суполка Свабоднага прафсаюзу.**

На гэтым прадпрыемстве, дзе працуе каля 300 чалавек, найбольш актыўныя рабочыя пакідаюць афіцыйны прафсаюз, бо лічаць яго «кішэнным».

**В.В.**

# Ведзьмаком Лысагорскім зацікавіліся ў Віцебску

**На мінулым тыдні ў віцебскіх шапіках «Саюздруку» зьявіўся чарговы нумар мясцовай газэты «Выбар». У ім апублікаваны вядомы даклад дэпутата С.Антончыка і паэма Ведзьмака Лысагорскага «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт».**

Пасьля гэтага газэта «Віцебскі кур'ер» паведаміла, што пракуратура распачала крымінальную справу па факце публікацыі ведзьмаковай паэмы ў віцебскім «Выбары».

**Валодзя ЯНЧУК**

# Палітыка Кебіча не выклікала даверу, а рэжым Лукашэнкі яшчэ больш палохае Захад

Камэнтар Уладзімера Заблоцкага

Гэты аналіз, які нядаўна быў апублікаваны ў найбуйнейшай нямецкай газэце *Neues Deutschland* паказвае ўзровень даверу да палітыкі рэфармаваньня ў поскамуністычных краінах. Сярод 19-ці дзяржаў Беларусь займае першае месца ззаду. У тых краінах, дзе праводзяцца сапраўдныя рэформы, дзе прызнаны інстытут прыватнай уласнасьці, гарантаваныя абарона права ўласнасьці і яе недатыкальнасьць, дзе ўключаныя ў эканамічны парадак усе рынкавыя мэханізмы, — там відавочныя посьпехі ў барацьбе за прыцягненьне інвэстыцыяў.




Кожная краіна больш зацікаўленая менавіта ў інвэстыцыях, а не ў атрыманьні крэдытаў. Бо за крэдыты, як вядома, неабходна плаціць працэнты, дый іх трэба вяртаць. За эфэктыўнасьць іхнага выкарыстаньня даводзіцца адказваць самім крэдытаатрымальнікам. Інвэстыцыі ж ідуць у найбольш эфэктыўныя галіны, ствараючы рынкавыя мэханізмы, рызыку бяруць на сябе самі інвэстары. За кошт інвэстыцыяў ствараюцца эфэктыўныя працоўныя месцы — г.зн. працоўныя месцы, на якіх ствараецца канкурэнтназдольная прадукцыя, папаўняецца нацыянальны даход. Рэспубліка Беларусь не стварыла элемэнтарных умоваў для інвэстыцыяў, адмаўляецца ад увядзеньня рэальных рынкавых мэханізмаў і таму, нягледзячы на цікавасьць інвэстараў да нашай тэрыторыі, інвэстыцыі не ідуць. Наадварот, нават беларускія суб'екты гаспадараньня і іхныя капіталы перамяшчаюцца ў эканоміку іншых краінаў і спрыяюць іхнаму разьвіцьцю.

Больш важныя не абсалютныя лічбы інвэстыцыяў, а сумы ў разьліку на аднаго жыхара. Калі браць пад увагу гэты паказьнік, парадак у сьпісе краінаў істотна зьмяняецца і дыяграма выглядае інакш.

**Сумы інвэстыцый на аднаго жыхара краіны**

1. **Вугоршчына — 601 USD**
2. **Чэхія — 282**
3. **Эстонія — 224, 6**
4. **Славакія — 90,7**
5. **Славенія — 73**
6. **Македонія — 60**
7. **Албанія — 51,2**
8. **Латвія — 46,6**
9. **Польшча — 35**
10. **Расея — 23,25**
11. **Харватыя — 22,67**
12. **Баўгарыя — 21,41**
13. **Літва — 18,42**
14. **Румынія — 14,04**
15. **Украіна — 9,2**
16. **Малдова — 8,8**
17. **Беларусь — 1,7**

Па гэтых паказьніках можна дастаткова дакладна меркаваць пра ступень рынкавага рэфармаваньня. Сумна, але Беларусь зноў па прычыне антырынкавай палітыкі ўладаў апынулася ў найгоршым становішчы. Інвэстыцыі да нас не ідуць, а зьнешняя запазычанасьць краіны склала ўжо 200 даляраў на кожнага жыхара Беларусі.

**Уладзімер ЗАБЛОЦКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі**

# Саша ўспамінае вясковыя танцы

Лукашэнка любіў вырашаць праблемы з дапамогаю кулака

**Кажуць, голас народа — голас Божы. Мне яго давялося пачуць чыста выпадкова — у таксоўцы. Узялі на трох машыну, паехалі ў цэнтар. З намі была жанчына, як выявілася, супрацоўніца міністэрства. Разгаварыліся пра жыцьцё. Безумоўна, не абмінулі і Лукашэнку.**

— А я добра яго ведаю, — сказала жанчына.

Гісторыя зусім звычайная: расьлі ў суседніх вёсках, часта сустракаліся на танцах. У юнацтве ўсё выразна акрэсьлена — хто чаго варты. Юны Саша любіў зводзіць рахункі з крыўдзіцелямі.

На танцах работа на кулак заўсёды знойдзецца. Калі нехта лез да Лукашэнкі, той адказваў ударам. Толькі так. І, бадай, ніводныя танцы не абыходзіліся бяз бойкі зь ягоным удзелам.

Такім чынам, чаго варты будучы прэзыдэнт, было ясна даўно. На жаль, пра псыхалягічны партрэт Лукашэнкі астатні народ Беларусі нічога не ведаў. А партрэт даволі просты, калі не сказаць прымітыўны: мне далі ў нос, я даў у сківіцу. Што, дарэчы, пацьвердзілася ў далейшым. Але тое, што было нармальным на вясковых танцах, стала незразумелым на самай высокай у краіне пасадзе. Пакрыўдзілі Сашу Кебіч з кампаніяй — вылучыўся, абдурыў народ і стаў прэзыдэнтам (даў у сківіцу ворагам, карацей кажучы). «Выступіла» прэса — паздымаў рэдактараў (даў у нос). Ах, бедны, бедны Аляксандар Рыгоравіч — «ніхто не любіць», усе яго крыўдзяць. А калі ня крыўдзяць, то трэба так арганізаваць, каб пакрыўдзілі. Цяжка зразумець тых людзей, якія ў дзеяньнях Лукашэнкі шукаюць нейкі патаемны сэнс: маўляў, што вы гэтым хацелі сказаць? Ды нічога, паважаныя, апрача як даць па галаве чарговаму ворагу-крыўдзіцелю. І гэта ўсё? Пардон, але дзе ж, так бы мовіць, стваральны матыў?

Увогуле, некалі ён быў. Аляксандар Рыгоравіч ня так даўно разам з паплечнікамі выпакутаваў «праграму неадкладных мераў па вывадзе з крызысу». Пра яе, праўда, усе забыліся, а той-сёй дык і не ведаў. Тым больш цікава паглядзець праграму цяпер, калі «плаксівы бальшавік» №2 (першы быў Рыжкоў) апынуўся ў досыць казытлівым становішчы. Вось, да прыкладу, была мэта — да сьнежня 1994 г. зьнізіць інфляцыю да 10—11% у месяц. Зьнізілі? Ага, чакай. Па прагнозах, у студзені 1995 г. інфляцыя складзе 55%. Падзеньне курсу «зайца» да даляра абяцалі зьменшыць да 9%. Ну, пра гэта і гаварыць ня варта, гэта для кожнага навідавоку: «зайчык» у адносінах да даляра падае імкліва і вельмі рэгулярна.

Тое ж датычыць усіх астатніх паказчыкаў (іх яшчэ 6). Нічога ня выканана.

Стабілізацыя курсу беларускага рубля. У гэтым разьдзеле



ёсьць цікавы пункт: стварэньне ўмоваў для прыцягненьня замежных інвэстыцыяў. Як быццам, стварылі. Але штосьці адваротнае. Напужаны нашай нестабільнасьцю, замежны інвэстар да нас ня едзе. І правільна робіць. Беларусь перажывае хвалю папулізму. Колькі яна працягнецца і чым скончыцца — адзін Бог ведае. Пры гэтым зьмены ў законах, няхай сабе вельмі прагрэсыўныя, мала што выправяць. Гарант у нас нічога ня варты. Ня ведаеш, што зробіць праз хвіліну — у морду дасьць ці пацалуе.

Вось яшчэ: узмацненьне дзяржаўнага рэгуляваньня. Ну, з гэтым усё добра. Лукашэнка абяцаў перагледзець кантракты з кіраўнікамі прадпрыемстваў, каго і выкінуць. Чым дадаў хаосу і бязладзьдзя ў прамысловасьці.

Апрача таго, пасварыўся з усімі, з кім толькі можна, — з інтэлігенцыяй, прадпрымальнікамі, прамыслоўцамі і г.д. Нават стрыманы Дзяржпартамэнт ЗША падаў голас. Ня кажучы пра Турцыю, якая адмовілася даць абяцаны крэдыт.

З кім, цікава, і з чыёй дапамогай зьбіраўся Лукашэнка выконваць сваю «Праграму...»? Выснова можа быць толькі адна: ён не зьбіраўся яе выконваць. Гэта быў рэклямны трук, кляўнада з мэтай падняць рэйтынг, які пачаў падаць амаль адразу пасьля выбараў. Як гаворыцца, «вы хочаце песень — будуць вам песьні». Толькі не перашкаджайце адчуваць сябе каралём танцаў.

Урэшце, усё можна растлумачыць паводле Фрэйда — сэксуальнымі праблемамі Лукашэнкі. Але што нам да іх? Няхай урачы разьбіраюцца.

**Андрэй СЯРЖАН**

# Немцы маюць падазраньне, што пад шыльдаю Беларускага цэнтру хаваецца «менская мафія»

**У газэце нямецкага горада Гертэн зьявілася публікацыя пра «менскую мафію», якая нібыта хаваецца пад шыльдаю «Беларускага цэнтру», адкрытага ў Хертэне год таму.**

Як паведамляе газэта, пасьля афіцыйнага адкрыцьця Цэнтру быў складзены вялікі сьпіс мерапрыемстваў: музычныя вечары пры самавары, урокі балету, стравы беларускай кухні і г.д. Акрамя таго, створаная пры Белцэнтры камэрцыйная структура зьбіралася наладзіць новыя эканамічныя кантакты, прапаноўвала кансультацыйныя паслугі...

«Аднак вялікая будучыня Беларускага цэнтру ўжо ў мінулым, — піша газэта. — Кожны, хто цяпер праходзіць каля двухпавярховага будынка Цэнтру, бачыць толькі зачыненыя дзьверы і брудныя вокны. На кожную спробу скантактавацца па тэлефоне тэлеком паведамляе: *нумар не адказвае*. Немагчыма зьвязацца і з кіраўнікамі Цэнтру — Віктарам і Галінай Роўдамі. Кажуць, што Цэнтар мае вялікія фінансавыя праблемы, ня можа расплаціцца з архітэктарам і будаўнікамі. Нядаўна стала вядома, што ўладальнік зямлі нібыта разарваў дамову з кіраўнікамі Цэнтру, бо не атрымлівае ад іх ужо некалькі месяцаў».

«Нельга выключыць і крымінальную вэрсію краху Белцэнтру, — гаворыцца далей у артыкуле. — Крымінальны вышук, які расьследуе таямнічае забойства Дытэра Мэтцнэра, дапытвае сьведкаў пра іхныя кантакты зь Беларускім цэнтрам. У сувязі з гэтым усё часьцей гавораць пра менскую мафію...»

Праз некалькі дзён у гэтай жа газэце зьявіўся новы артыкул, у якім Галіна і Віктар Роўды (паводле нашых зьвестак, гэта былыя супрацоўнікі Менскага інстытуту культуры) апратэстоўваюць папярэднюю публікацыю. Яны адназначна сьцьвярджаюць: «Цэнтар працуе». У будучыні, як кажа В.Роўда, тут плянуецца арганізаваць эўрапейскае бюро на чале з прафэсарам Я.Бабосавым з Акадэміі Навук Беларусі. Сп.Роўда згаджаецца, што ў Цэнтра шмат фінансавых праблемаў, і таму тэлефон адключаны. Прычына ў тым, што перабудова памяшканьняў каштавала болей, чым разьлічвалі, — ажно 800.000 дойчмарак. Але ў хуткім часе, як сьцьвярджае сп.Роўда, чакаюцца грошы ад беларускага міністэрства фінансаў, і тады ўсе рахункі будуць аплочаныя. «Доктар Роўда ўвесь час падкрэсьлівае ў размове афіцыйны статус Цэнтру ў супрацоўніцтве Нямеччыны і Беларусі, гаворачы, што беларускі ўрад падтрымлівае іхнюю дзейнасьць», — піша газэта. Між тым, як адзначаецца ў артыкуле, беларуская амбасада ў Боне афіцыйна паведаміла, што «ня мае нічога агульнага з Цэнтрам».

Відаць, канцы гэтай заблытанай гісторыі трэба шукаць у Менску.

**Падрыхтаваў**
**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Беларусь і Літва: мадэль добрасуседзтва

*Пачатак на стар.5*

на даступную абодвум мову. На чатырох літоўскамоўных каналах тэлебачаньня беларуская мова гучыць толькі 10 хвілін раз на тыдзень. Прычым некаторыя наракаюць, што гэтая праграма трактуе ўсё зь беларускіх пазыцый. Але, на маю думку, у беларуска-літоўскіх дачыненьнях такія нараканьні — вузкалобыя, бо справа тут ня ў тым, каб адстойваць нейкія пазыцыі, свае трактоўкі гісторыі і г.д., а ў тым, чаго мы хочам, якая нашая ўзаемная суседзкая воля — добрая ці благая. Мы не супернікі, не спаборнікі — вось што галоўнае.

**І.Г. Дарэчы, а што робяць віленскія беларусы?**

С.Д. Яны малаактыўныя, што блага, і законапаслухмяныя, што добра. Бо праблема міждзяржаўных узаемаадносінаў вырашаецца не на іхным узроўні (яны, «дыяспара» без «мэтраполіі» за плячыма, нічога ня значаць), а на ўзроўні дзяржаваў, на ўзроўні парытэту.

Парытэту сёньня няма. Воляю лёсу беларусы далі літоўцам вялізную фору ў рэгіёне. Можна зразумець, чаму, і зваліць усё на беларусаў. А можна зваліць усё на літоўцаў. Але з такіх падыходаў не вынікае нічога добрага. Прызнаньне савецкага status quo з усімі ягонымі дэфармацыямі — гэта прызнаньне тае ільдзіны адчужанасьці і ўзаемнай нянавісьці, якая за савецкім часам нарошчвалася тут крамлёўскімі геапалітыкамі. Але ні першая, ні другая, ні трэцяя пазыцыі не вядуць да дабра.

Рэч у тым, што літоўцы маюць пад бокам у тры разы большы этнас, які сёньня пачынае імкліва дасьпяваць, фармавацца ў нацыю. Адгарадзіцца ад яго каменнай сьцяной нерэальна. Пры ўсіх сёньняшніх рэаліях, якія зьявіліся паміж намі, маладая нацыя ня будзе доўга перабіраць у пошуках ворагоднага ворага. А калі вызначыцца «мэтраполія», заварушыцца і «дыяспара». Джын, якога сёньня імкнуцца не заўважаць, улагоджваць або проста затыкаць у ягонай хліпкай пасудзіне, выскачыць адтуль, і тады пра добрасуседзтва гаварыць будзе ўжо немагчыма.

Мэтадалягічна падставы добрасуседзтва можна сфармуляваць так: беларускі бок дбае пра літоўскія інтарэсы (зважаючы на працэсы дасьпяваньня нацыі ў самой Беларусі), а літоўскі бок дбае пра інтарэсы беларускія (думаючы адначасова пра ўлагоджваньне сваіх правых радыкальных нацыяналістаў). З такімі настроямі можна сядаць за стол перамоваў. Але гэтага мала.

Ужо сёньня паміж нашымі краінамі існуе інфармацыйны вакуум. Хоць якраз Віленшчына мае патрэбу ў поўнай двухбаковай інфармацыі. Гэта першая падстава «народнай дыпляматыі». Мы мусілі б зьведаць адно аднога і пачаць выяўляць адныя да адных цікавасьць. Нельга сказаць, што гэтага зусім няма ў прыродзе літоўцаў і беларусаў. Між тым вакуум робіцца ўсё больш непралазны. Сёньня літоўцам найбольш цікавыя яны самі, а беларусам яшчэ не цікавы ніхто.

**І.Г. Паспалітаму беларусу што-небудзь уявіць сабе пра літоўскія інтарэсы немагчыма. Дый беларускаму палітыку, каб дбаць, як ты кажаш, пра гэтыя інтарэсы, трэба нешта з сабой зрабіць...**

С.Д. У тым і рэч. А без гэтага мы адкрыта ідзем да канфлікту. Дзьве «чужыя», «халодныя» краіны, у якіх больш за 700 км агульнай мяжы.

Літва сёньня, па-мойму, імкнецца ўнікнуць усіх сваіх праблем зь Беларусяй, пакуль Беларусь іх не паставіла. Літва хоча ўскочыць у Эўропу і сказаць: «мяне тут няма» альбо: «за вамі расейскі мядзьведзь, а за мной Эўропа, NATO і г.д.» Але пры такой лёгіцы якім трэба ўяўляць сабе наш сьвет і рэгіён заўтра? Міндоўг і Вітаўт кульнуцца ў труне ад такіх кашмараў!

Што такое згода і паразуменьне? Гэта калі я разумею, чаго ты хочаш, і імкнуся, каб ты быў гэтаксама задаволены нашым суседзтвам, як і я.

Я ўжо казаў пра фору Літвы ў гэтым стагодзьдзі. Як нацыі мы пачыналі з аднолькавых стартавых узроўняў і ў аднолькавых умовах, але Літве тройчы пашанцавала больш: міжваенная дзяржаўнасьць, Вільня, выхад з СССР. І таму я бачу літоўскія інтарэсы ў збалянсаваньні гэтага шанцунку з намі, пакуль мы не ператварыліся ў рэваншыстаў-рабаўнікоў.

На маю думку, ёсьць некалькі агульных захадаў, якія маглі б зьняць праблему нашых узаемаадносін на будучыню.

1. Літва мусіла б вярнуць сталіцу ў Коўна. Я прадбачу, што гэта будзе тэмай найгучнейшага крыку маладога беларускага нацыяналізму, а таксама крайніх літоўскіх правых. Але зауваж, што ад Літвы тут нічога не адымаецца. Наадварот. Такія крокі сьведчаць пра веліч краіны і яе ўпэўненасьць у сваіх сілах. Што да Літвы, то ў ёй мудрасьць адных палітыкаў кантрастуе з хутаранскай закрытасьцю іншых. Першыя моцуць мысьліць вобразна, і ў нашых гутарках ніколі не бывае тупіковых сытуацый. Яны кажуць: «Калі вы прэтэндуеце на Вільню, то мы прэтэндуем на Менск». Я адказваю: «Цудоўна! Тады забірайце нас разам з Гомлем». Вось гэта мысьленьне грамадзян Вялікага княства Літоўскага. Мы, як два народы гэтай дзяржавы, разглядаем Вільню як сталіцу ВКЛ, а Коўна і Менск — як сталіцы сучасных палітычных утварэньняў ЛР і РБ. Сёньня ВКЛ няма. Літоўцы па сутнасьці адрадзілі ковенскую незалежнасьць, а мы блізкія да незалежнасьці БНР. І калі прыйдзе час аднаўляць ВКЛ (няхай праз трыста гадоў), у нашых нашчадкаў з выбарам сталіцы не павінна быць праблемаў.

2. Літва мусіла б увесьці для Віленшчыны асаблівы статус шматмоўнага, шматканфэсійнага рэгіёну, што вярнула б Вільні не афіцыйны статус культурнай сталіцы Усходняй Эўропы. Колісь з такім статусам Вільня дала сьвету мноства выдатных беларусаў, летувісаў, палякаў, французаў, габраяў, расейцаў... Доўга пералічваць, бо тут варта называць усіх. А цяпер што яна дасьць? Толькі літоўцаў і толькі Літве? Заўваж, што я зноў дбаю найперш пра літоўцаў.

3. Літва мусіла б паставіць Беларусі ўмову адкрыцьця мяжы пры папярэднім закрыцьці мяжы Беларусі з Расеяй.

Вось і ўсё. Я думаю, што гэтага дастаткова, каб цалкам апраўдаць у вачох беларусаў літоўскую юрысдыкцыю Вільні і Віленшчыны, а таксама прынцып непарушнасьці сучасных межаў.

**І.Г. А што мусіла б Беларусь?**

С.Д. Пакуль што — правесьці дэмакратычныя выбары, дасьпець да нармальнага прэзыдэнта і ліквідаваць інфармацыйны вакуум вакол Літвы.

Любы поступ у нашых узаемаадносінах і наша добрая воля ляжаць толькі ў прасторы спадкаемніцтва традыцыяў ВКЛ. Магчыма некалі ў гэтым партнэрстве павядзе Беларусь. Сёньня ж такую місію мусіць выконваць Літва. Інакш, баюся, Беларусь праз нейкі час павядзе не ў партнэрстве, а ў канфлікце. А гэта ўжо ня тая тэма, якая б дазваляла будаваць мадэлі добрасуседзтва.

*Вільня, 25 сьнежня 1994 г.*

---

Валянцін ГОЛУБЕЎ:

# «Літва з радасьцю глытала маскоўскі кручок»

Сапраўды, каб прагназаваць на будучыню, трэба ведаць мінулае. Сумняваюся, аднак, што спробы знайсьці апірышча беларуска-літоўскіх адносінаў толькі ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага могуць быць плённымі. Рэч у тым, што дзяржаўны і грамадзкі погляд на нашу супольную мінуўшчыну ўжо сфармаваўся і ў Беларусі, і ў Літве. На жаль, зь велізарнымі перакосамі — і ў нас, і ў іх. І калі нашыя суседзі ўжо зь першай клясы даводзяць дзеткам, што Вялікае княства Літоўскае — такая ж дзяржава літоўцаў, як і сёньняшняя Літоўская Рэспубліка, іх можна зразумець. Падабаецца нам такі падыход ці не падабаецца, але гэта ўжо стала дзяржаўнай палітыкай Літвы.

Рэч у тым, што сапраўдную гісторыю ведаюць прафэсіяналы ды частка зацікаўленай інтэлігенцыі, астатнія вывучаюць яе па напісаных сучаснікамі манаграфіях ды падручніках. Дзеля мацаваньня нацыянальнай сьвядомасьці, гуртаваньня нацыі выкарыстоўваецца ўсё магчымае. Шкада толькі, што ў Беларусі па прычыне адсутнасьці нацыянал-дзяржаўнікаў у кіраўніцтве робіцца адваротнае — афіцыйныя асобы на поўным сур'ёзе паўтараюць распрацаваную расейскай імпэрскай прапагандай яшчэ ў канцы XVIII ст. тэорыю пра «захоп» беларусаў літоўцамі і, значыцца, аб законнасьці «вызваленьня» і «узьядналньня». Цяжка ставіць пытаньне пра статус былой сталіцы княства, калі ня кожны беларус сёньня ведае, што Вільня і Вільнюс — адзін і той жа горад.

Фактам ёсьць тое, што 200-гадовая акупацыя дала свае адмоўныя вынікі. Русіфікацыя, нацыянальны нігілізм пануюць у кіраўнічым асяродзьдзі дзяржавы. Але фактам ёсьць і тое, што нацыя захавалася, нягледзячы на мураўёўшчыну, сталіншчыну і Курапаты. Натуральна, што нацыянальная інтэлігенцыя спрабуе прагназаваць палітычную будучыню Беларусі. Але ж трэба быць рэалістамі. Адна рэч на палітычным, культурніцкім узроўнях спрыяць добрасуседзкім адносінам, расказваць сваім народам пра вялікую сумесную спадчыну і праз гэтаісьці да празрыстасьці мяжы, аднолькавай адкрытасьці Вільні для літоўцаў і беларусаў і зусім іншае — рэкамэндаваць літоўцам (хоць і на ўзроўні газэтных разважаньняў) перанесьці сталіцу ў іншы горад.

Мяркую, што для таго, каб разважаць пра пэрспэктывы, пра будучыню беларуска-літоўскіх дачыненьняў, трэба абавязкова прааналізаваць сытуацыю ў рэгіёне на працягу апошніх стагодзьдзя і, што вельмі важна, у апошнія 5 гадоў — пасьля набыцьця Беларусяй і Літвою незалежнасьці.

Аналізуючы стан літоўска-беларускіх дачыненьняў, як за апошнія сто, так і за пяць гадоў, выразна бачыш, што заўсёды знаходзяцца сілы, якія імкнуцца стварыць ці падтрымліваць пэўную палітычную напругу ў нашых стасунках. Інсьпіруюцца такія спробы з тэрыторыі дзяржаў-суседак, часьцей за ўсё з усходу. Хачу нагадаць некалькі інсьпіраваных Расеяй авантур, так ці інакш зьвязаных з праблемаю Віленшчыны.

*У першую чаргу варта прыгадаць Маскоўскую дамову 12.07.1920 паміж Літвой і савецкай Расеяй, паводле якой бальшавіцкі рэжым прызнаў за Літвой «правa» на Вільню, Горадню, Ашмяны, Сьвянцяны, Ліду... А стварэньне 27.02.1919 Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Літвы і Беларусі? А Рыская дамова 1921 г.? А пагадненьне Літвы і СССР ад 10.10.1939, у адпаведнасьці зь якім Літва атрымлівала частку беларускіх земляў? Літва заўсёды з радасьцю глытала гэты кручок з прынадаю ў выглядзе Вільні, ад якога б рэжыму ні ішла прапанова. Дарэчы, некаторыя літоўскія палітыкі вельмі любяць згадваць гэтыя дакументы, забываючыся на тое, што сакрэтныя пратаколы да пакту Молатава-Рыбэнтропа на момант перадачы земляў ужо былі падпісаныя, таму СССР мала цікавіў факт адміністрацыйнай прыналежнасьці тэрыторыяў да Літвы ці да Беларусі. Усё рабілася савецкім...*

*Былі і свае, мясцовыя, прычыны для ўзьнікненьня пэўнай міждзяржаўнай напружанасьці ў асобныя пэрыяды. Нагадаю вядомую пастанову Прэзыдыюма Вярхоўнага Савету БССР аб Віленскім краі, прынятую ў 1989 г., публікацыі ў Літве артыкулаў і мапаў, дзе мяжа ідзе па лініі Дзятлава — Маладэчна — Мядзел — Паставы...*

Сёньня практычна завяршыўся працэс дэлімітацыі і дэмаркацыі літоўска-беларускай мяжы, завяршаецца падрыхтоўка Дамовы аб добрасуседзтве і сяброўскім супрацоўніцтве. Узьнікае пытаньне: чаму гэта не было зроблена раней?

Упэўнены, што адказнасьць кладзецца ў асноўным на беларускіх палітыкаў. Камуністычная бальшыня Вярхоўнага Савету Беларусі рэзка адмоўна ставілася да незалежніцкай антыкамуністычнай палітыкі В.Ландзбэргіса. Да выбраньня ў жніўні 1991 г. Старшынём Вярхоўнага Савету Беларусі С.Шушкевіча, міждзяржаўныя адносіны зь Літвой падтрымліваліся ў асноўным праз дэпутатаў апазыцыі Беларускага Народнага Фронту.

Далейшыя кантакты ў многім пашырыліся дзякуючы менавіта С.Шушкевічу. Увосень 1991 г. у Вільні В.Ландзбэргіс і С.Шушкевіч падпісалі Дэклярацыю аб прынцыпах добрасуседзкіх адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай. Аднак зрабіць больш у той сытуацыі, калі «партыя ўлады» зь непрыязнасьцю ставіліся да Шушкевіча, было напэўна, і немагчыма. Літоўскі бок у той час імкнуўся да больш шырокага супрацоўніцтва зь Беларусяй, высока цэнячы пазыцыю беларускага боку падчас эканамічнай блякады, калі «Літва выжыла ў многім дзякуючы Беларусі».

Зьмена лідара ў Літве значна паўплывала на стан беларуска-літоўскіх дачыненьняў. Хоць А.Бразаўскас неадноойчы заяўляў, што паміж Літвой і Беларусяй склаліся добрыя адносіны, у рэзалюцыі аб зьнешняй палітыцы, прынятай 23 сьнежня 1993 г., Сойм Літоўскай Рэспублікі не ўключыў Беларусь у лік літоўскіх прыярытэтаў.

Другі момант. Пасьля таго як распаўся СССР і Беларусь стала незалежнай, Літве стала цяжэй «ісьці ў Эўропу». Добра вядома, што Захад зьвяртае ўвагу у першую чаргу на тых, каго прыгнятаюць, дыскрымінуюць, каму пагражаюць... У Літве ўжо ўсталявалася ўнутраная стабільнасьць. Трэба было знайсьці пагрозу звонку. І яна хутка знаходзіцца. Мяркую, што менавіта з гэтай прычыны зьявілася ў Літве заява кіраўніка апазыцыі, што «вялікая эўразійская дзяржава праводзіць сваю палітыку рукамі палітыкаў Беларусі».

Пасьля ўзьнікае «праблема» санаторыі «Беларусь» у Друскеніках і станцыі Гадуцішкі. І ня трэба казаць, што Гадуцішкі «прыдумаў» Кебіч. Кебіч вінаваты ў тым, што ня змог з розумам забраць сваё, пачаўшы недарэчны «гандаль» — нашую санаторыю за нашую ж станцыю. Але што пра гэта гаварыць, ужо ўсё зроблена...

Мяркую, што не пазьней, чым у лютым, дамова аб дэмаркацыі і дэлімітацыі мяжы паміж Беларусяй і Літвой будзе падпісаная, канчаткова вырашыцца пытаньне і з санаторыяй. Адзначу толькі, што гэта зусім не заслуга «новых сілаў і асабіста прэзыдэнта», як пасьля напіша прэса. Гэта вынік больш чым двухгадовай карпатлівай працы спэцыялістаў і палітыкаў.

Упэўнены, што ў беларуска-літоўскіх дачыненьнях вялікая пэрспэктыва, але толькі пры ўмове хуткіх дэмакратычных выбараў у Беларусі, выпрацоўкі сапраўды нацыянальнай палітыкі і зьяўленьня сапраўды беларускага кіраўніцтва ў нашай краіне.

**Валянцін ГОЛУБЕЎ,**
**сакратар Камісіі Вярхоўнага Савету па міжнародных справах**

